Гарадская грамадска-палітычная газета

# Бабруйскае жыццё

Выдаецца з лістапада 1918 года

**Сёння ў нумары:**



№101 (15805) СЕРАДА, 5 ліпеня 2000 года. Цана 25 руб.

# ВАШ ПОДЗВІГ, ВАШЫ АХВЯРЫ НІКОЛІ НЕ ЗАБУДУЦЦА, ДАРАГІЯ ВЕТЭРАНЫ!



Часта ў чэргах у магазінах, ля кас чыгуначных і аўтобусных вакзалаў, у чаканні прыёму да рознага рангу чыноўнікаў на гэтых людзей злуюцца за тое, што яны спрабуюць скарыстацца ўстаноўленымі для іх правамі, нярэдка яны выклікаюць раздражненне, кпіны: маўляў, не так сказаў, не так апрануты, адсталыя погляды...

Так, ветэраны – дзеці сваёй эпохі, з яе чалавечымі каштоўнасцямі, менталітэтам, тагачасным выхаваннем і ведамі. У большасці сваёй яны жылі бедна. Але іх вызначалі выключная працавітасць, самаадданасць, цярплівасць, што зыходзілі з веры ў лепшую будучыню, якая ствараецца сваімі ўласнымі рукамі. І ў гэтым цяперашнія маладыя людзі могуць толькі пазайздросціць сваім дзядам, бацькам, бабулям і мацярам.

Так, яны былі рознымі. А хіба зараз людзі не вельмі розныя, хіба зараз усе такія ўжо выхаваныя, адукаваныя, міласэрныя? Хіба многія з нашых сучаснікаў не выклікаюць тое ж самае раздражненне, калі не сказаць абурэнне, сваёй нахабнасцю, жаданнем жыць за кошт іншых, дабіцца даброт не сваёй галавой, не сваімі рукамі? Як бачым, далёка не ўсе параўнанні на карысць пасляваенных пакаленняў...

А хіба гэта не найвялікшая заслуга перад цяперашнім і будучымі пакаленнямі, што яны, ветэраны, з гонарам вытрымалі выпрабаванні, якія выпалі на іх долю, прайшлі праз горніла другой сусветнай вайны, самай жорсткай і кровапралітнай у гісторыі чалавецтва? Уступаючы злейшаму ворагу ў баявым вопыце, ваеннай тэхніцы, ва ўменні камандавання кіраваць войскамі – што стала вынікам сталінскіх “чыстак” у арміі, пазнаўшы горыч бясконцых паражэнняў і адступленняў з-за сур’ёзнейшых, недаравальных пралікаў вышэйшага палітычнага кіраўніцтва краіны, цаной неймаверных ахвяр яны абаранілі Радзіму і ўшчэнт разграмілі ненавіснага ворага.

І не віна ветэранаў, што пераможцы нават праз дзесяцігоддзі, якія аддзяляюць нас ад светлага дня Перамогі, жывуць горш за пераможаных, што ў выніку развалу вялікай і магутнай калісьці дзяржавы нам усім зараз вельмі кепска, асабліва былым абаронцам Айчыны. Да невыноснасці балюча і крыўдна ім бачыць, што адбываецца цяпер, адчуваць, да чаго давялі народы неразумныя, недальнабачныя і безадказныя палітыкі.

...Перада мной ляжаць газетныя фатаграфіі трыццацігадовай і нават меншай даўнасці. На іх адлюстравана традыцыйнае шэсце ветэранаў Бабруйска ў свята Перамогі. Калона працягнулася амаль на два кварталы, а ўшыр заняла вуліцу ад тратуару да тратуару.

... Пазаўчора пакрысе збіраліся яны з раніцы на даўно ўмоўленае месца на рагу вуліц Пушкіна і Горкага, каб прыняць удзел у шэсці і мітынгу на плошчы Перамогі, прысвечаным Дню Незалежнасці Рэспублікі Беларусь і 56-й гадавіне яе вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Але як мала ў параўнанні з тымі часінамі прыйшло сюды герояў вайны... Даўнія раны, хваробы, маральныя перажыванні за тое, што адбываецца зараз, з чым не могуць яны змірыцца, і няўмольны час смяротным агнём падкошваюць былых франтавікоў і народных мсціўцаў. І таму вельмі рады яны сустрэчы са сваімі баявымі сябрамі і наогул з кожным, каго ўзнагароды на грудзях прылічваюць да слаўнага баявога братэрства. Але калі раней яны звычайна ўспаміналі сваю баявую маладосць, то зараз часцей за ўсё ўспамінаюць тых, каго ўжо няма з імі, хто не дажыў да сённяшняга свята.

Сярод франтавікоў бачу майго даваеннага суседа Васіля Аляксандравіча Матусевіча. Гэта ён, непаўналетні, разам з групай такіх жа хлапчукоў, перад самым прыходам у горад фашыстаў наважыўся пайсці з Бабруйска на ўсход, каб ваяваць з чужынцамі. Трапіў на Урал, вучыўся ў ФЗН, а потым стаў салдатам-мінамётчыкам, змагаўся з захопнікамі на трох франтах, заслужыў ордэн і медаль “За адвагу”. Васіль Аляксандравіч – вядомы ў горадзе садаводаматар.

А вось мой даўні сябар Антон Антонавіч Варславан – былы артылерыст, які мужна ваяваў на Ленінградскім і Волхаўскім франтах, затым на 2-м Прыбалтыйскім. Шмат гадоў ён аддаў працы ў сельскай гаспадарцы, узначальваў адзін з калгасаў і сельсаветаў Бабруйскага раёна.

Каларытна выглядае ў форме паветранага дэсантніка ваенных гадоў старшы сяржант Аляксандр Кузьміч Суханаў, ураджэнец горада Ульянаўска, які ў жарт называе сябе камандуючым паветрана-дэсантнымі войскамі Бабруйска. Нягледзячы на сваё 74, ён выглядае брава – хоць пішы з яго карціну. Аб баявых заслугах былога дэсантніка сведчаць ордэн Айчыннай вайны, медаль “За адвагу” і два медалі “За баявыя заслугі”.

Цікавая баявая біяграфія былога пагранічніка, камандзіра ўзвода зенітчыкаў Васіля Ціціавіча Шкрадзюка. Між іншым ён ахоўваў неба сталіцы Ірана ў час гістарычнай Тэгеранскай канферэнцыі ў 1943 годзе, на якой сустрэліся кіраўнікі вялікай тройкі – Сталін, Рузвельт і Чэрчыль. У дакументальным фільме, прысвечаным гэтай падзеі, паказаны і Васіль Ціціавіч. 18 узнагарод упрыгожваюць яго грудзі.

У групе ветэранаў можна заўважыць і прадстанікоў баявога афіцэрства: былога камандзіра зенітнай батарэі славутай 5-й гвардзейскай танкавай арміі падпалкоўніка Сямёна Залманавіча Сярэбранікава, узнагароджанага двума ордэнамі і двума баявымі медалямі, падпалкоўніка-артылерыста Івана Кірылавіча Часаліна, нашага земляка, старшага лейтэнанта Сямёна Максімавіча Давідовіча, ветэрана педагагічнай працы, які ганараваны ордэна Чырвонай Зоркі і двух ордэнаў Айчыннай вайны, медаля “За адвагу”. Дарэчы, Сямёну Максімавічу 8 мая 1945 года давялося выконваць ролю парламенцёра пры капітуляцыі курляндскай групоўкі германскіх войскаў.

У натоўпе ветэранаў, якія неўзабаве аформіўся ў калону, было нямала жанчын. Іх уклад у перамогу цяжка пераацаніць. З вялікім задавальненнем я пазіраў на вядомую ў горадзе франтавічку – снайпера Антаніну Маркаўну Булаўка, на рахунку якой 76 знішчаных гітлераўцаў, за што яна ўзнагароджана чатырма ордэнамі і двума медалямі “За адвагу”. Час не здолеў пазбавіць былога снайпера жаночай прыгажосці і прывабнасці, элегантнасці. Нездарма яна доўгі час навучала бабруйчанак на курсах кройкі і шыцця адзення ў гарнізонным Доме афіцэраў.

Вельмі рэдкая для прадстаўніцы цудоўнага полу была ваенная спецыяльнасць у Аляксандры Фёдараўны Літвінавай: яна служыла старшыной у танкавай часці. Грудзі былой танкісткі ўпрыгожваюць два ордэны і 12 медалёў.

Што і казаць, вельмі парадзелі рады былых народных мсціўцаў. Сярод іх можна было заўважыць заўсёды жвавага, нястомнага па сваёй энергіі, аптымістычнага, былога падпольшчыка і партызана Уладзіміра Шамхалавіча Парсаданава, разведчыцу і падрыўніцу Зінаіду Васільеўну Нягрэеву і адну з самых старэйшых ветэранаў, 87-гадовую Ганну Мікалаеўну Чарняўскую, якая ў атрадзе славутага Бумажкова была і разведчыцай, і сувязной, і санітаркай, і кухаркай, а пасля вайны 33 гады прапрацавала санітаркай у ваенным шпіталі.

Пасля ўскладання кветак да помніка У. І. Леніну на плошчы,што носіць яго імя, калона ветэранаў, якую ўзначальвалі кіраўнікі гарадскіх уладаў, грамадскіх арганізацый і прадстаўнікі камандавання ваеннага гарнізона, пад гукі ваеннага духавога аркестра рушыла да плошчы Перамогі. І ў гэтыя хвалюючыя хвіліны састарэлыя, сівыя, нямоглыя людзі нібы скінулі са сваіх плеч цяжар гадоў, імкнучыся выглядаць перад гараджанамі малайцамі.

Ускладаюцца кветкі да помніка воінам-інтэрнацыяналістам, камня-абеліска загінуўшым у змаганні за свабоду і незалежнасць Радзімы бабруйчанам і вянкі да танка-помніка генералу Б. С. Бахараву. Святочны мітынг адкрывае старшыня гарадскога Савета дэпутатаў Ю. С. Бандарэнка. Аркестр выконвае Гімн Рэспублікі Беларусь.

Слова прадастаўляецца старшыні гарадскога выканаўчага камітэта У. Ф. Раманоўскаму. Ён гаворыць аб значэнні свята, якое знамянуе сабой і незалежнасць нашай краіны, і вызваленне яе ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, аб укладзе беларускага народа ў Перамогу.

Прамоўца, у прыватнасці, нагадвае, што ў радах Савецкай Арміі змагалася паўтара мільёна ўраджэнцаў Беларусі, звыш 300 тысяч салдат і афіцэраў з іх ліку ганараваны ордэнаў і медалёў, 441 воін атрымаў званне Героя Савецкага Саюза, 65 беларусаў сталі поўнымі кавалерамі ордэна Славы. 20 военачальнікаў з ліку беларусаў камандавалі ў час вайны франтамі, 152 – дывізіямі і брыгадамі. Беларусы-рабочыя кавалі перамогу над ворагам на абаронных заводах Савецкага Саюза.

Уладзімір Фёдаравіч падкрэслівае, што без адзінства і згуртаванасці, дружбы народаў усіх адстаяць незалежнасць беларускай дзяржавы было б немагчыма.

Мэр горада заклікае ветэранаў і ўсіх бабруйчан глядзець у будучыню з аптымізмам, бо ў нас, па яго словах, ёсць усё – развітая эканоміка, разумныя галовы, працавітыя рукі – для таго, каб дасягнуць дабрабыту і працвітання.

Удзельнік вызвалення Бабруйска ад фашысцкіх акупантаў, старшыня пярвічнай арганізацыі ветэранаў акцыянернага таварыства “Беларусьгуматэхніка” Л. І. Канавалаў, намеснік камандзіра 5-га гвардзейскага армейскага корпуса палкоўнік М.З. Грышкевіч, першы сакратар Першамайскага райкома БПСМ Д. В. Луцэвіч гаварылі аб тым, што Вялікая Айчынная вайна стала суровым экзаменам на трываласць і мужнасць нашага народа, прадэманстравала яго вялікі патрыятызм, нязгібную волю да перамогі, цвёрдасць, смеласць і сілу духа яго сыноў і дачок, якія здолелі не толькі адстаяць сваю зямлю, але і ўпартай штодзённай працай, з дапамогай іншых рэспублік былога Саюза аднавіць разбураную вайной народную гаспадарку. Гэты подзвіг служыць лепшым прыкладам для моладзі, што з’яўляецца зарукай пераемнасці пакаленняў.

Бабруйчан шчыра павіншаваў са святам і пажадаў поспехаў у перадольванні цяперашніх цяжкасцяў наш госць – А. М. Плахотнік, намеснік гарадскога галавы ўкраінскага горада Днепрадзяржынска, з кіраўніцтвам якога заключана дамоўленасць аб супрацоўніцтве.

Мінутай маўчання ўшанавалі ўдзельнікі мітынгу памяць аб загінуўшых абаронцах Радзімы, прагрымеў трохразовы салют аўтаматчыкаў.

Пасля мітынгу сотні бабруйчан з вялікай цікавасцю глядзелі і слухалі канцэрт мастацкай самадзейнасці, у якім прынялі ўдзел калектывы шыннікаў – народны хор, народны ансамбль танца “Юнацтва” і ўзорны тэатр песні “Шына-най”.

А вечарам у гарадскім парку культуры і адпачынку прайшло народнае гулянне, з канцэртам, у якім прынялі ўдзел самадзейныя артысты Бабруйскага раённага цэнтра адпачынку і прафесійныя з Мінска. Гулянне завяршылася разнакаляровым суцвеццем агнёў святочнага феерверка.

**Яфім ГЕЙКЕР.**

**На здымку:** *ветэраны на плошчы Перамогі.*

**Фота Аляксандра ФІСЕНКІ.**



# В "КЛУБЕ МЕДАЛИСТОВ" – САМЫЕ-САМЫЕ...

*Вопреки уже сложившейся традиции вручение золотых и серебряных медалей выпускникам школ, а также "красных" дипломов и награждение будущей белорусской интеллектуальной элиты происходило в День города не на его центральной площади, а в ДК КСК "Шинник".*

*Именно здесь, в переполненном зале боролись с волнением родители лучших вчерашних учеников и студентов, нервно поблескивая вспышками фотоаппаратов, а на сцене почетные места заняли председатель горисполкома Владимир Романовский и его заместители: Михаил Ковалевич, Виктор Пригода, главы администрации Ленинского и Первомайского районов Станислав Бородавко и Сергей Тепляков, начальник управления образования Лидия Богданова.*

*Открывая торжественную часть, мэр Бобруйска особо подчеркнул, что завоеванные выпускниками медали – бесценны. Это не только награда за терпение, кропотливый труд, смекалку и прозорливость, но и отчет перед родным городом, заявка на способность вершить судьбу Отечества в недалеком будущем. Поэтому и не случайно разделить радость на этот бал выпускников приехали делегации Бобруйского района, городов Осиповичи, Мозыря, Славгорода, Кличева, Кировска, Глуска и Краснополья. Присоединиться к поздравлениям лучших сыновей и дочерей города на Березине сочли необходимым заместитель министра жилищно-коммунального хозяйства Республики Беларусь Валерий Новак и депутат палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь, директор Бобруйского завода крупнопанельного домостроения Мария Винокурова.*

*83 золотые и 65 серебряных медалей, а также 75 дипломов с отличием было вручено в этот знаменательный день. Аплодисментами благодарная аудитория приняла решение о создании "Клуба медалистов города Бобруйска" и зачислении его полноправными членами всех удостоенных этой высокой награды в 2000 году.*

**Собств. инф.**
**Фото А. ФИСЕНКО.**

# АДЗІН ВІД СПОРТУ ЗМЯНЯЎ ДРУГІ

Своеасаблівым працягам святкавання Дня горада стала фізкультурна-спартыўнае шоу, на якое з самага ранку ў нядзелю пачалі збірацца бабруйчане і госці горада.

... 10 гадзін раніцы. Усе, хто прыйшоў на стадыён "Спартак", уважліва кідаюць позіркі ў неба, дзе з'явіўся АН-2 пад пілатаваннем Пятра Смоліна, намесніка начальніка аэраклуба, што базіруецца ў Сычкаве. Праходзіць яшчэ некалькі хвілін і над стадыёнам на даволі значнай вышыні нарэшце завісаюць рознакаляровыя купалы парашутаў майстроў спорту У. Казінца, А. Малаковіча, В. Сільвановіча, М. Чаплыгіна, С. Стрэжа і А. Франца. Дакладнае прызямленне кожнага з парашутыстаў сустракаецца неардынарнымі эмоцыямі гледачоў.

Пасля слоў прывітання, з якімі звярнуўся да ўсіх удзельнікаў спартыўнага свята начальнік гарадскога ўпраўлення па фізічнай культуры, спорту і турызму Яўген Вашкевіч, фізкультурна-спартыўнае шоу знайшло працяг у паказальных выступленнях юных бабруйчан. Адзін від спорту змяняў другі: спартыўная гімнастыка – каратэ, лёгкаатлетычныя забегі – велагонку. Бліснулі сваёй грацыяй дзяўчаты з танцавальна-спартыўнай групы "Аліса" Цэнтра выхаваўчай работы з дзецьмі і падлеткамі Першамайскага раёна.

Ажыўленне ў гледачоў выклікалі выступленні навучэнцаў Цэнтра тэхнічнай творчасці, а таксама "амонаўцаў" і іх калег-кінолагаў. З цікаўнасцю бабруйчане сачылі і за ходам футбольных баталій, якія спачатку разгарэліся паміж юнацкімі камандамі СДЮШАР (г. Бабруйск) і ДЮСШ (г. Наваполацк), а потым прадстаўніцамі прыгожага полу – нашай "Бабруйчанкай" і брэсцкай "Жамчужынай".

Абодва гэтыя матчы завяршыліся перамогай гаспадароў поля. Юнакі разграмілі свайго праціўніка з лікам 3:0. Дзяўчаты ж павялічылі іх вынік яшчэ на адзін гол (4:0). Вось толькі, на жаль, у чарговым матчы адборнага турніру чэмпіянату Еўропы 2001 года сярод жаночых каманд, што праходзіў 29 чэрвеня ў Мазыры, уступілі зборнай Румыніі з лікам 0:1 і страцілі шанц удзелу у Алімпійскіх гульнях 2004 года.

**А. НІКАЛАЕЎ.**
**Фота А. ФІСЕНКІ.**









***Мир наших увлечений***

# ФРАНЦИСКУ СКОРИНЕ ПОСВЯЩАЕТСЯ

В очередной раз белорусская земля стала центром проведения форума юных художников стран СНГ, Прибалтики и Западной Европы.

Нынешний пленэр существенно отличался от предыдущих, которые посвящались выдающимся художникам. Он проходил под знаком "Солнца и месяца" Ф. Скорины – создателя белорусского и восточно-славянского книгопечатания, гуманиста и просветителя, олицетворяющего органическое единство славянской культуры – неотъемлемой части культурного наследия Европы.

Не случайно юные художники сразу после торжественного открытия благотворительной миротворческой культурной акции отправились в древний Полоцк.

Город Бобруйск и Могилевскую область представляла юная художница объединения "Радуга" Виолетта Чабан (на снимке). Она удостоена этой чести за ряд побед на республиканских и международных конкурсах и выставках, а также отличную учебу в школе.

Завершился форум юных художников из разных стран итоговой выставкой в столичном Дворце искусств.

***Игорь МОТИН,***
***руководитель объединения "Радуга".***

# "... А ЎЗНЯЦЦА НЕ МОГУЦЬ"

Калі на акцыянерным таварыстве "Сілікат" мяне пазнаёмілі з эканамічным становішчам, у якім апынуўся калектыў, адразу прыйшло параўнанне: *акцыянеры стаяць на карачках, на працягу шасці гадоў і ніяк не могуць узняцца.*

Сусветная практыка даказала, што ў перабудовачны перыяд існаваць прадпрыемству без перыядычных грашовых уліванняў з боку немагчыма. Так і ў нашым выпадку. У калектыву прадпрыемства з пачатку перабудовачнага перыяду наяўных сродкаў пастаянна не хапае. У размове з людзьмі хтосьці параўнаў сучасны эканамічны стан з дзіравым вядром, праз якое выцякаюць усе абаротныя сродкі, якія так патрэбны для ўплаты за сыравіну, электраэнергію, падаткаў, зарплаты. *З гэтай думкай можна згадзіцца,* і вось чаму. Мне неаднаразова даводзілася бываць на гэтым прадпрыемстве, пісаць аб яго будаўніцтве, далейшым развіцці. Зараз малюнак зусім іншы. Так, пры праектных магутнасцях у 120 мільёнаў адзінак сілікатнай цэглы пры савецкай уладзе ў адзін з гадоў было выпушчана ажно 132 мільёны адзінак.

Але постперабудовачныя гады зрабілі сваю "чорную" справу. Прадпрыемства стала ляжачым, на нагах цяжкай гірай вісяць вялікія даўгі. А адсюль і мізэрныя заробкі. Ды і адкуль узяцца добрым? Да прыкладу прывяду такія лічбы, якія выкарыстаў у ранейшых публікацыях. У першай палове 1998 года вытворчыя магутнасці па сілікатнай цэгле былі загружаны на 12,9, па керамічнай цэгле – на 47,2, па дробных блоках – на 8,8 працэнта.

Як бачна, калектыў "прагуляў" шмат гадоў з-за адсутнасці сродкаў на набыццё сыравіны, матэрыялаў, паліва. У час прастояў рабочым плацілі 2/3 тарыфнай стаўкі. Адсюль і вельмі нізкая зарплата, крэдыторская запазычанасць, страшэнныя даўгі за энерганосьбіты. Прычына – недахоп уласных сродкаў тады і зараз, што прывяло да значных прастояў цэхаў і стратнасці вытворчасці.

Тады ж для фінансавага аздараўлення, павелічэння аб'ёмаў вытворчасці быў распрацаваны бізнес-план. У ім прадугледжваліся ўласная здабыча пяску, стварэнне *адзінага комплексу па вытворчасці* сілікатнай цэглы і дробных блокаў і шэраг ільгот *па ўплаце падаткаў.* Галоўнае – атрыманне крэдыту, што дазволіла б павялічыць аб'ёмы вытворчасці ў 2,1 раза. Становішча спраў было разгледжана і замацавана пратаколам сумеснай нарады аблвыканкома, Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва краіны, гарвыканкома і кіраўнікоў прадпрыемства.

Што ж змянілася за два з паловай гады пасля прыняцця рашэння? Усё ў горшы бок. Змяніліся кіраўнікі, звольнілася амаль 100 работнікаў, шмат вядучых спецыялістаў, закрыта вытворчасць дробных блокаў.

– Працуем у сістэме так званай эканоміі, – з горыччу гаворыць дырэктар таварыства В. Л. Вінакураў. – І... працягваем падаць.

Як растлумачыў Віктар Леанідавіч для эканоміі сродкаў кацельня пераведзена на дровы, пар паступае толькі на вытворчасць і для душавых. Ды і лічбы вынікаў дзейнасці калектыву не радуюць. Так, за пяць месяцаў бягучага года выпушчана прадукцыі ўсяго на 60,7 мільёна рублёў, 15,5 тысяч умоўных адзінак сілікатнай цэглы і 643 тысячы адзінак керамічнай цэглы.

Шмат гэта ці мала? Для параўнання прывяду такія лічбы. У "застойныя" часы столькі прадукцыі калектыў выпускаў за паўтара месяца. На 1 мая бягучага года крэдыторская запазычанасць з улікам індэксацыі і курсавой розніцы склала 373,8 мільёна рублёў, у тым ліку за электраэнергію 204,9 мільёна. Даўгі прывялі таварыства ў вялікую яму. Каб з яе выбрацца, папраўляць справы, рашэннем гарадскіх улад у камунальную ўласнасць горада перадаюцца кацельня, клуб, дзіцячыя сад-яслі, вадзяны калектар. Акцыянеры вызначылі прыярытэты і накірункі, з дапамогай якіх можна вярнуць страчаныя пазіцыі і рынкі збыту.

Гэтая стратэгія падмацавана эканамічнымі разлікамі, якія даюць магчымасць працаваць без страт. Але спачатку неабходна галіноваму міністэрству, вобласці, гораду, прадпрыемству разам вырашыць пытанне фінансавання і загрузкі магутнасцей на 50 працэнтаў. Менавіта гэта забяспечыць работу без страт, *выйсці да канца бягучага года з прыбыткам,* пагасіць каля 35 працэнтаў агульнай крэдыторскай запазычанасці.

Упэўненасць у ажыццяўленні намечанага пацвярджаецца і патрэбай будаўнічага комплексу рэгіёна ў прадукцыі прадпрыемства, якое заключыла дамовы з шэрагам будаўнічых арганізацый. У цяперашні час кожная цэгла літаральна на расхоп. Так што адзін з фактараў – рэалізацыя прадукцыі – вырашаны.

Але не вырашаны два галоўныя пытанні, без якіх усе намаганні калектыву не дадуць належнага эфекту. Гэта пытанне аб адтэрміноўцы за спажыванне энерганосьбітаў у памеры 258 мільёнаў рублёў да канца бягучага года. Другое – знайсці сродкі – 55 мільёнаў рублёў для запуску магутнасцей. Аднак гэтае рашэнне, якое было прынята на ўсіх узроўнях 12 жніўня 1998 года, не выканана і сёння. Як і шэраг іншых пунктаў, што прывяло да пагаршэння фінансавага стану прадпрыемства. Па словах дырэктара В. Л. Вінакурава, ён толькі займаецца гэтымі двума пытаннямі, пабываўшы ў рэспубліканскіх міністэрствах, дзе сустракаўся з міністрамі, атрымаў іх подпісы, а вынікаў няма. Калі быць больш дакладным, то рашэнне пытання аб адтэрміноўцы ўплаты даўгоў за электраэнергію спынілася на канцэрне "Белпалівагаз".

– Наша прадпрыемства – адзінае ў раёне Фаршатата, якое забяспечвае месцам работы жыхароў раёна, – сцвярджае старшыня наглядальнага савета таварыства Т. В. Трыпуцёнак. – Становішча вельмі цяжкае для працоўнага калектыву. Пытанне стаіць аб закрыцці таварыства. А ў вярхах гадамі вырашаюць нашыя праблемы. І нічога канкрэтнага там не зрабілі.

Па словах Тамары Васільеўны гарадскія ўлады і асабіста старшыня гарвыканкома У. Ф. Рамаўноўскі ведаюць усе "хваробы" калектыву, імкнуцца ўсяляк аблегчыць становішча. Зараз стаіць пытанне аб перадачы таварыства ў камунальную ўласнасць горада. Калі гэта толькі будзе? Хто ж дапаможа ўстаць з каленяў 440 работнікам акцыянернага таварыства "Сілікат"?

**М. МАЦВЯЁНАК,**
***грамадскі карэспандэнт "БЖ".***



# СЯМ'Я

*Наболела*

## КУДА ДЕВАЛАСЬ ДЕВИЧЬЯ ГОРДОСТЬ?

В последнее время наш город стал более чистым, благоустроенным. Все это радует глаз. Но слух наш постоянно ловит трехэтажный мат. И это больно бьет по сердцу старшее поколение. В наше время молодые люди уважительно относились к себе и к окружающим. Сейчас, к огромному сожалению, все это кануло в Лету. Идешь по городу и видишь: привлекательные, хорошо одетые девушки идут рядом с молодыми людьми, в разговоре которых постоянно слышится нецензурная речь. Диву даешься. Девушки никакой реакции по этому поводу не проявляют. Наоборот, активно ведут разговор, улыбаются. Можно подумать, что им говорят комплименты. Приходишь домой с тяжелым чувством. И думаешь: почему девушки перестали себя уважать? Где их достоинство? Ведь они – будущие матери. Как же они будут воспитывать своих детей?

Могут ли молодые люди уважать своих мам, бабушек, если они сквернословят в присутствии своих подруг? Нет! Думаю, что и хороших отцов из них не получится.

Обидно за такую молодежь, бескультурную, грубую, а порой и жестокую. Нет, никакие наряды не скроют хамства. Вот и хочется крикнуть: "Девушки, где же ваша гордость?! Не позволяйте унижать себя сквернословием. Уважайте себя и других".

**Н. КОЛОСОВСКАЯ.**

*Асабістае*

## МЫ ПЕРАД ІМІ Ў НЕАПЛАТНЫМ ДАЎГУ

Нашы маці. Якімі яны былі, як прайшло іх дзяцінства, маладосць, маці, якім зараз па восемдзесят гадоў... Яны перажылі грамадзянскую вайну, калектывізацыю, часы даваеннага ліхалецця, вайну, пасляваенную разруху, станаўленне і распад вялікай краіны пад назвай СССР.

У апошні час я ўсё часцей успамінаю сваю маці, якой хутка споўніцца восемдзесят адзін год, і дзіўлюся таму, што расказы простай вясковай жанчыны даюць большае ўяўленне пра тыя далёкія гады, чым падручнікі гісторыі.

У далёкім 1919 годзе ў маленькай вёсачцы на Гомельшчыне нарадзілася ў вялікай сям'і дзяўчынка, якую назвалі Ганначкай. Ужо з шасці гадоў маці пачала браць яе на поле, вучыла жаць сярпом жыта. Акрамя таго, трэба было навучыцца і прасці, і ткаць, і хатнюю гаспадарку ўмець весці.

Гадоў з васьмі адправілі Ганначку вучыцца ў школу-сямігодку. Яна аказалася здатнай да вучобы і пасля заканчэння школы выправілася ў далёкі горад Віцебск, каб атрымаць спецыяльнасць акушэркі.

Каб дабрацца да чыгункі, прыйшлося ісці пешшу, ехаць на кані і на машыне. Нарэшце, патрэбны цягнік на станцыі, але ж яго трэба было браць штурмам. Падчас пасадкі адарваліся гузікі і згубіліся ўсе дакументы і грошы, што Ганна ўзяла ў дарогу. Але ў Віцебск усё ж трапіла.

Як цяпер, то ёй, мабыць, далі б ад варот паварот, а тады – дазволілі паступаць. Яна паспяхова здала экзамены і была залічана ў склад навучэнцаў. Каб неяк пражыць, яна мыла падлогу і вокны ў заможных гараджан. Праз нейкі час дакументы ў вучылішча даслаў нейкі добры чалавек.

Частку стыпендыі Ганна аддавала бацькам, якім трэба было плаціць падаткі. Яны ж дасылалі ёй кавалак сала, што-небудзь з гародніны. Жыла вельмі бедна. На дзень з яды быў у асноўным хлеб і сто грамаў цукру. Затое вучылася паспяхова, набыла спецыяльнасць, пачала працаваць. Выйшла замуж і перад самай вайной нарадзіла сына.

Муж пайшоў на фронт, а ёй даводзілася кідаць маленькага на бабулю і ехаць на веласіпедзе за 20 кіламетраў на працу. Аднойчы ехала нават падчас бамбёжкі.

Пасля вайны жылля было мала і таму ў многіх хатах жыло па 2-3 сям'і. Так жыла і мая маці. Ёй пашчасціла, бо муж прыйшоў з вайны, праўда стаў інвалідам па зроку.

Пачалі нараджацца і адно за другім паміраць дзеці, нават старэйшага сына забрала эпідэмія менінгіту. І вось, нарэшце, Гасподзь злітаваўся і дараваў ім двойню, дзве дачкі, Еву і Марыю, а потым сына і мяне. Пабудавалі сваю хату, жыццё наладзілася. Акушэркай ёй ужо не давялося працаваць, бо не было месца ў бальніцы.

Як дзеці крыху падраслі, маці пайшла працаваць у калгас. Цяжкасці вясковага жыцця не скарылі яе. Яна ўсё роўна была добрая, лагодная, ніколі ні на што не скардзілася.

Я часта думаю, ці змагла б я перарабіць усю тую работу, што яна, і мне здаецца, што не. Трэба было ўстаць на досвітку і ўпарадчыць гаспадарку, згатаваць сняданак і абед, адпрацаваць у калгасе, дагледзець агарод, дапамагчы нам з урокамі і пры гэтым прасці, вышываць, вязаць. Усе дзеці атрымалі адукацыю. Вядома, цяжка было, бо вучыліся ўсе ў розных гарадах, а потым адправіліся ў самастойнае жыццё.

Калісьці цесная хата стала пустой. Адышоў у нябыт бацька і жывуць у гэтых сценах толькі маці і кошка. Зусім старэнькая. Між тым яна не хоча ні да каго з дзяцей пераязджаць. Як і раней, клапоціцца пра ўсіх нас, але не хоча нікому замінаць. А мы заўсёды былі б ёй толькі рады.

**Т. ДЗІНДЗІКАВА.**

## ИЗМЕНЫ СОКРАЩАЮТ ЖИЗНЬ СУПРУГА

*Английские ученые недавно обнаружили очевидную связь между изменой и инфарктом. Исследовав несколько сот случаев смерти мужчин от инфаркта, они выяснили, что 77% этих мужчин имели любовниц.*

*Ведь измена – это почти всегда стрессовая ситуация. Во-первых, тайное приключение само по себе вызывает острое возбуждение. Встретив на своем пути новую подругу, мужчина инстинктивно стремится к новым ощущениям и переживаниям, таким, которые он не может испытать с женой. Во-вторых, неверный муж, встречаясь с любовницей, всегда боится потерпеть поражение. С женой ему не о чем беспокоиться, нечего доказывать – там о нем все давно известно. С любовницей же наоборот: мужчине надо всякий раз утверждать себя. Вот поэтому-то подобные встречи могут стать для ловеласа смертельной ловушкой. И если спокойное существование в супружестве сможет удлинить жизнь мужчины, то измены и поиски удовольствий, с одной стороны, придают ей остроты, а с другой – ее укорачивают.*

*Роздум*

## „НЕМЫ КРЫК"

Гэта назва фільма, які мне зусім нядаўна давялося ўбачыць. Уражанне было такое, быццам я чула гэты крык: "Не забівай!" Цяжка аб гэтым пісаць, бо датычыць гэта ўсіх нас, бо мы прызвычаіліся, бо стала гэта абыдзеннай справай, бо амаль ніхто не задумваецца над тым, што кожны дзень адбываюцца гэтыя забойствы.

"Я папрасіў знаёмага ўрача, які штодзённа выконваў каля 20 абортаў, каб той на працягу аднаго працоўнага дня зрабіў ультрасанаграфічны запіс. Ён выканаў маю просьбу, а потым мы разам праглядзелі гэты матэрыял. Ніколі потым гэты ўрач ужо не рабіў абортаў!!!" – гэта гаворыць амерыканскі доктар Бернард Натансон.

Заснаваны на гэтым матэрыяле і ўзнік фільм "Немы крык". Доктар Натансон у 1968 г. заснаваў "Нацыянальную лігу права на аборт", з яго дапамогай былі легалізаваны аборты ў штаце Нью-Йорк, а потым у іншых штатах ЗША. Ён быў стваральнікам "абортнай амбулаторыі" з 10-цю аперацыйнымі сталамі, дзе на працягу 2 гадоў было зроблена 60 тысяч абортаў. Доктара Натансона называлі "абортным каралём". У 1973 г. ён быў прызначаны працаваць у шпіталь пры універсітэце Калумбія. Менавіта тады ў шпіталь было завезена найноўшае дыягнастычнае абсталяванне і ўпершыню можна было ўбачыць "плод у яго асяроддзі, змераць яго, даследаваць, прывыкнуць да яго". У медыцынскім журнале быў запіс, што з 10-ці жанчын, якія хацелі пазбавіцца дзіцяці, 9 адмовіліся пасля таго, як яго ўбачылі на экране манітора.

З часам погляды доктара Натансона наконт перарывання цяжарнасці змяніліся, і ў 1979 г. ён выканаў толькі адзін аборт, які стаў апошнім. З гэтага часу ўся яго дзейнасць напраўлена на абарону жыцця. "Я палюбіў ненароджаных дзяцей, палюбіў жыццё і пачаў яго шанаваць". І вось з`яўляецца фільм "Немы крык", дзе мы бачым, як у час гэтай "аперацыі" дзіцятка крычыць, шырока адкрыўшы роцік, як яно ўпіраецца і спрабуе ўцячы ад страшных прылад смерці. Яго пульс у гэтыя імгненні налічвае 200 удараў у хвіліну. "Але ўсё тут супраць яго, нават маці. І вось жудасная жалезная пятля з вострым лязом адрывае яму ручку, ножку, паступова разрывае на кускі бездапаможнае цельца".

Большасць з нас не ведае, што сэрца дзіцяці пачынае біцца ў 18 дзён, а ў 6,5 тыдняў яно пачынае рухацца, на цэлых 12 тыдняў раней, чым гэта адчуе сама жанчына. Якія яшчэ доказы патрэбны ў тым, што, робячы аборт, мы забіваем жыццё?

Ведаю, што за апошнія 10 год колькасць бабруйчан паменшылася амаль на 30 тысяч, прычым справа не толькі ў міграцыйных працэсах, а ў тым, што смяротнасць перавышае нараджальнасць.

Міхаіл Цяўлоўскі – акадэмік, прэзідэнт Фонда абароны жыцця ў яе крыніцах, заслужаны дзеяч навукі Рэспублікі Беларусь заўважае: "У год мы губляем каля 90 тысяч чалавек. Калі гэтыя тэндэнцыі захаваюцца і не будуць прыняты меры да іх ліквідацыі, разлікі паказваюць: праз 1 год з зямлі можа знікнуць апошні жыхар Беларусі, "Сёння на Беларусі з трох зачатых дзяцей дваіх забіваюць у час аборта. Гэта страшная статыстыка гаворыць аб самагенацыдзе. Па колькасці абортаў на 1000 чалавек мы ўваходзім у лік "прызёраў": Румынія займае 1 месца, Расія – другое, Беларусь – трэцяе..."

Як правіла, жанчыны кажуць: "Сёння вельмі цяжкае жыццё. Ведаеце, колькі каштуюць памперсы?!", "Што я магу даць свайму дзіцяці? Навошта пладзіць галечу, лепей яму не нараджацца..."

Але, напэўна, справа не ў эканамічным толькі стане, бо калі б дзяцей нараджалі толькі багатыя сем'і, то самымі шматдзетнымі былі б багатыя заходнія краіны. Але, напрыклад, у Амерыцы, дзе можна бездбедна жыць на дапамогу па беспрацоўю, робіцца 1,5 мільёна абортаў на год і амерыканцы таксама апраўдваюць гэта эканамічнымі цяжкасцямі. "Ці не здарыцца так, што калі мы апраўдваем забойства безабароннага дзіцяці цяжкасцю яго ўтрымання, то наступным для нас будзе апраўданне знішчэння інвалідаў, старых, душэўнахворых?"

Жыццё патрабуе, каб мы ставіліся да яго свядома, каб разумелі яго сэнс, сэнс існавання любой формы жыцця на зямлі. Напрыканцы хачу прывесці словы адной жанчыны: "Я проста пераканана, што самае моцнае пачуццё ў жанчыны – мацярынства. Як шкада, што зразумела я гэта толькі ў 33 гады. Колькі год прайшло дарэмна, колькі абортаў я зрабіла. Каб можна было вярнуць той час, я б усіх гэтых дзяцей нарадзіла. Які грэх брала я на душу, як я вінавата перад усімі сваімі ненароджанымі дзецьмі. Як я вінавата перад Богам! Каюся, каюся, каюся. Зараз гэта мой самы балючы ўспамін, грэх, за які няма даравання..."

**А. ГРАХАВА.**

*Родительский ликбез*

## ЭТО НОРМАЛЬНО?

**В 13 лет – противозачаточные таблетки**

Если дочь задает вам вопросы насчет этих таблеток, прежде всего дайте понять, что она правильно поступает, спрашивая маму. Поговорите с ней не только о предохранении, но и вообще о сексе. Девочка должна сказать, что она хочет, а что – нет. Страх потерять друга, отказав ему в интимной близости, – не лучшее начало сексуального опыта. Сходите вместе к гинекологу, врач поможет вам в разговоре с дочерью. Предложите ее вниманию литературу на эту тему.

**В 11 лет – диета**

Важно выяснить, что кроется за желанием ребенка сесть на диету. Она действительно считает себя толстой или ее просто дразнят в школе? Постарайтесь объяснить дочери, что она хороша такая, какая есть. И предложите некоторое время питаться вместе, но иначе, чем прежде, – есть меньше жирного и сладкого. Причем избегайте понятий "диета" и "калории": не нужно, чтобы еда стала для ребенка самой главной больной темой.

**В 14 лет – работать**

Это не беда, но только если ребенок хорошо успевает в школе. Если же работа совершенно лишает его времени для основных занятий, с ней придется повременить. Иначе ему никогда не научиться правильно планировать и организовывать свое время.

**Поздний приход домой**

Родители должны проявить великодушие по отношению к стремлению подростка отправиться вечером в гости или на дискотеку. Однако вопрос возвращения домой надо обсудить заранее. Все зависит от того, насколько надежен подросток в своих обещаниях: сдерживает ли он свое слово и приходит домой точно в указанное время. Если нет, то вначале он должен три-четыре раза доказать свою пунктуальность. Родителям также необходимо знать адрес (телефон) дома, где находится их сын или дочь.



*Шчаслівыя імгненні.*

**Фота А. ФІСЕНКІ.**

*На веселой волне*

**Разговаривают одесситки:**

**– А что, ваша Софочка вышла замуж?**

**– Ай, с чего вы взяли эту глупость?**

**– Что же она тогда сидит и кормит грудью малого?**

**– Не смешите меня! Если у девочки есть свободное время и молоко, почему ей нельзя покормить ребенка?!**

* * *

**В ресторане:**

**– Дорогая, что тебе заказать?**

**– Заказывай "скорую помощь", вон мой муж идет.**

* * *

**– Лена, я хочу сделать тебе предложение!**

**– Да, любимый!**

**– Отвяжись, а?**

* * *

**Беседуют две подруги:**

**– Решила вернуться к мужу...**

**– Почему?**

**– Не могу спокойно смотреть, как этот негодяй живет в свое удовольствие.**

* * *

**Универмаг. Пока жена выбирает товары, муж смотрит по сторонам и видит обалденную женщину, которая только что вошла в магазин. Завороженный, он не в силах отвести от нее взгляд. И вдруг слышит голос жены:**

**– Ну и как, стоит она тех неприятностей, которые у тебя сейчас будут?**

**Старонку падрыхтавала Л. ВАСІЛЬЕВА.**

